# СВАБОДА

№9 8—14 сакавіка 1994 г.

Кошт 50 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар **Ігар ГЕРМЯНЧУК**

Заснавальнік **Павал ЖУК**

Выдавец «Газэта СВАБОДА», Ltd.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
**220088, Менск, вул.Іванаўская, 56**


# Бывай, рублёвая зона!

У бліжэйшы час беларускаму «зайцу» будзе афіцыйна нададзены статус нацыянальнай валюты

**Адпаведны праект пастановы, падпісаны галоўным банкірам С.Багданкевічам і прэм'ерам Кебічам, ужо ўнесены на разгляд Вярхоўнага Савету. Мяркуецца, што рашэньне будзе прынята не пазьней за 19 сакавіка.**

Першы пункт праекту пастановы гучыць так: *«Да фактычнага аб'яднаньня грашовай сыстэмы РБ з грашовай сыстэмай РФ прызнаць адзіным плацёжным сродкам на тэрыторыі рэспублікі разьліковы білет Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусі».*

Старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч прапаноўваў прыняць такое рашэньне яшчэ паўгода таму — на пачатку верасьня 1993 г. З таго часу ён неаднаразова заяўляў дэпутатам і публіцы (праз прэсу), што іншага выйсьця няма, акрамя як надаць «зайцу» статус нацыянальнай валюты.

Прыкладна ў гэты самы час В.Кебіч разгарнуў прапагандысцкую кампанію «за саюз з Расеяй» (спачатку — грашовы), і зразумела, што заявы шэфа Нацбанка гучалі дысанансам. Вячаславу Францавічу давялося патлумачыць сп.Багданкевічу ягоную партыю ў хоры, і той досыць хутка зразумеў саліста. Багданкевіч больш не рабіў ніякіх «неабдуманых» заяваў, добрасумленна езьдзіў у Маскву, удзельнічаў у безвыніковых перамовах па аб'яднаньні грашовых сыстэмаў... «Ён разумны банкір, але надта паслухмяны чалавек», — кажа пра Багданкевіча адзін ягоны калега.

Цяпер вось яны «тандэмам» прапануюць прызнаць «зайца» адзіным плацёжным сродкам. У сувязі з гэтым рыхтуюцца некаторыя цікавыя захады. Цытуем: *«Часова, да нармалізацыі плацёжнага балянсу Рэспублікі, усталёўваецца абавязковы продаж усімі суб'ектамі гаспадараньня 50% экспартнай выручкі ў СКВ і 100% у валюце дзяржаваў, якія раней уваходзілі ў СССР, на Міжбанкавай валютнай біржы ці Нацыянальнаму банку па рынкавым курсе»; «На тэрыторыі Рэспублікі паступова згортваецца гандаль за замежную валюту».* Да канца году яны плянуюць зьнізіць тэмпы інфляцыі да 8—10% у месяц (цяпер каля 50%).

Карацей — бывай, рублёвая зона! Няхай жыве «заяц»!

Відаць, усе, хто мог нажыцца на гэтай няпэўнасьці, ужо нажыліся.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ

Пахаваньне адкладаецца

# TV ПРАГРАМА



## Багданкевіч ня хоча быць старшынёю філіі

**У суботу, 5 сакавіка, на нарадзе банкіраў Беларусі выступіў Старшыня Нацыянальнага банка С. Багданкевіч.**

У прыватнасьці, ён заявіў, што Масква выстаўляе ўсё больш жорсткія патрабаваньні да рублёвай зоны. Калі прыняць расейскую мэтодыку падлікаў, пры «аб'яднаньні», да прыкладу, у красавіку абменны курс расейскага рубля да беларускага будзе 1:8. Прычым усё больш настойлівымі робяцца патрабаваньні праводзіць абмен па адным курсе ў безнаяўнай сфэры і ў наяўнай для насельніцтва. Яшчэ адзін прынцыповы момант, які адзначыў сп. Багданкевіч — гэта патрабаваньні Масквы да канца 1994 г.ператварыць Нацыянальны банк Беларусі ў філію Цэнтральнага банка Расеі. З гэтым Старшыня Нацбанка ня згодны.

**Ян ГРЭЧЫЦ**

## Беларусь на 100-м мейсцы

**Нямецкія эканамісты, што займаюцца праблемамі інвэстыцыяў, апублікавалі нядаўна справаздачу і рэйтынгавы ліст краінаў, у эканоміку якіх найвыгадней укладаць сродкі.**

Гэты сьпіс узначальваюць Швайцарыя, Японія, Нямеччына, ЗША і Нідэрлянды. Так званыя «азіяцкія драконы» Сынгапур і Тайвань занялі адпаведна 11 і 13 мейсцы. Сярод краінаў Цэнтральнай Эўропы рэй вядуць Чэхія (40), Вугоршчына (43) ды Славаччына (57). Нашая заходняя суседка Польшча апынулася на 62 мейсцы.

Сярод былых рэспублік СССР найбольш прынадна для заходніх інвэстараў выглядаюць Эстонія (84), Латвія (87), Расея (92) і Летува (93). Што да Беларусі, то яна заняла належнае ёй «ганаровае» 100-е мейсца, акурат за Буркіна Фасо. Вячаслаў Францавіч можа парадавацца: наша «рэспубліка» выперадзіла Маляві і нават Кот д'Івуар. Есьць нагода адзначыць «посьпехі рэформаў» чарговаю паездкаю ў Маскву.

**Вінцук ШОСТКА**

## На ўгодкі БНР — шэсьце

**Управа БНФ падала ў Менскі гарвыканкам заяву на правядзеньне 20 сакавіка шэсьця ў гонар 76-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Пачатак шэсьця заплянаваны на 11.30. Сьвяточная калёна рушыць ад пляцу Незалежнасьці да парку Янкі Купалы, дзе адбудзецца мітынг і мастацкае сьвята.

**М.Г.**

*Падпіска на газэту СВАБОДА працягнутая да 15 сакавіка*

*У вас застаўся апошні шанец*

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі РБ "Белсаюздрук"

**АБАНЭМЭНТ** на газэту 63887

**СВАБОДА** Колькасьць камплектаў 1

на 1994 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | Месца | літар

на газэту 63887

**СВАБОДА**

Кошт: падпіскі 600 руб. 00 кап.; пераадрасоўкі руб. кап. Колькасьць камплектаў: 1

на 1994 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

# Беларусь можа пазбавіцца ўласнасьці на 5 мільярдаў даляраў і 500 мільёнаў даляраў штогадовага даходу

**15 лютага Савет Міністраў Рэспублікі Беларусі прыняў Пастанову №80 «Аб ухваленьні і прадстаўленьні на ратыфікацыю пагадненьня паміж урадам Рэспублікі Беларусі і ўрадам Расейскай Фэдэрацыі аб уваходжаньні беларускага дзяржаўнага прадпрыемства па транспартаваньні і пастаўцы газу «БЕЛТРАНСГАЗ» у склад расейскага акцыянэрнага таварыства «ГАЗПРОМ».**

Што гэта за Пагадненьне? Аказваецца, гэта дадатковае таемнае паразуменьне паміж В. Чарнамырдзіным і В. Кебічам, якое было падпісана ў Маскве летась 8 верасьня — у той жа дзень, калі кіраўнікі ўрадаў падпісалі пагадненьне аб так званым аб'яднаньні грашовых сыстэмаў Расеі і Беларусі. Цяпер таемнае пагадненьне давялося абнародаваць, бо яно падлягае ратыфікацыі Вярхоўным Саветам Беларусі (заўважце, толькі Беларусі, бо ўшчамляюцца толькі яе эканамічныя інтарэсы), і расейскі бок пачынае рабіць эканамічны ціск.

Так, з 3 сакавіка зьменшыліся пастаўкі газу ў Беларусь, паколькі мы завінаваціліся Расеі 400 мільярдаў рублёў. Як вядома, беларускі прэм'ер В.Кебіч 2 сьнежня летась пасьля чарговай паездкі ў Маскву заяўляў з трыбуны Вярхоўнага Савету, што Беларусь павінна Расеі за газ усяго 150 мільярдаў рублёў. Пры гэтым прэм'ер казаў, што 32 мільярды тэхнічнага крэдыту, які нам мела даць Расея, былі пералічаныя прамою перадаплатаю Расейскаму акцыянэрнаму таварыству «ГАЗПРОМ».

Такім чынам, можна сьцьвярджаць, што доўг Беларусі за пастаўкі расейскага газу вырас за тры месяцы на 280 мільярдаў рублёў.

На такую суму Расея павінна была паставіць нам каля 5 мільярдаў кубамэтраў газу — больш за квартальную патрэбу Беларусі. Гэта азначае, што з часу выступу нашага прэм'ера Беларусь увогуле не плаціла за газ. Мы цэлы квартал жылі на дарэмным газе. Скажыце, як бы паводзіла сябе Беларусь, калі б Расея не плаціла за пастаўляную ёй прадукцыю?...

У чым сутнасьць угоды? Паводле вэрсіі нашага Савету Міністраў, пасьля ратыфікацыі Вярхоўным Саветам Беларусі гэтага Пагадненьня паглыбіцца эканамічнае супрацоўніцтва абедзьвюх дзяржаваў у галіне паліўна-энэргетычнага комплексу, Рэспубліка Беларусь будзе мець дывідэнды ад дзейнасьці Расейскага акцыянэрнага таварыства «ГАЗПРОМ», нашыя будаўнікі атрымаюць ад гэтага таварыства падрад на будаўніцтва ў аб'ёме больш як 300 млн. даляраў, будзе створана больш за 1000 рабочых месцаў. Акрамя таго, вырашацца пытаньні забесьпячэньня ўжо не беларускай газавай гаспадаркі неабходнымі запаснымі часткамі, трубамі і эксплюатацыйнымі матэрыяламі.

Для тых, хто працуе ў гэтай галіне, выгада бясспрэчная. А як быць астатнім грамадзянам Беларусі, якія непасрэдна або ўскосна ўносілі ўклад у стварэньне «агульнанароднай уласнасьці», што цяпер прыватызуецца вузкім колам асобаў і да таго ж з парушэньнем беларускага заканадаўства?

Па-першае. Што ж уяўляе сабой Расейскае акцыянэрнае таварыства «ГАЗПРОМ», якое ўтворана Ўказам Прэзыдэнта Расейскай Фэдэрацыі ад 5.11.92 на базе Дзяржаўнага газавага канцэрну «ГАЗПРОМ» і якім, дарэчы, у свой час кіраваў сёньняшні прэм'ер Расеі В. Чанамырдзін? Гэта, бадай, самы буйны і агрэсыўны суб'ект расейскай эканомікі, на долю якога прыпадае 95% здабыванага ў Расеі прыроднага газу. Статутны капітал «ГАЗПРОМУ» складае 236,7 млрд. рублёў — без уліку пераацэнкі асноўных фондаў. 40% акцыяў замацаваныя ў фэдэральнай уласнасьці Расеі, 15% разьмеркаваныя па закрытай падпісцы сярод работнікаў галіны, 10% прададзеныя за чэкі па намінальным кошце самому холдынгу для далейшага продажу. Рэшту акцыяў — 28,7% — мяркуецца прадаць праз закрытыя чэкавыя аўкцыёны.

Карацей кажучы, «ГАЗПРОМ», які ствараўся за кошт «усяго савецкага народу», будзе падзелены паміж вузкім колам сваіх работнікаў, кіраўнікоў і прадстаўнікоў расейскай фінансавай алігархіі. «ГАЗПРОМ» мае «Банк Імпэрыял», які выкупіў замежныя банкі былога СССР і стаў найбуйнейшым банкам Расеі. Цяпер гэты найбагатшы супэрхолдынг намерыўся практычна бясплатна забраць усе газавыя сеткі Беларусі праз вышэйзгаданае Пагадненьне. Можна меркаваць, што гэта адна з дыскрымінацыйных умоваў В. Чарнамырдзіна да так званага аб'яднаньня грашовых сыстэмаў — прасьцей кажучы, дарагая плата Беларусі за аднаразовае ўліваньне расейскіх грошай у эканоміку Беларусі ў выпадку ўваходжаньня апошняй у грашовую сыстэму Расейскай Фэдэрацыі.

Па-другое. Што ўяўляе сабой беларускае дзяржаўнае прадпрыемства «БЕЛТРАНСГАЗ»? «БЕЛТРАНСГАЗ» падзяляецца на газатранспартную і газаразьмеркавальную сыстэмы. Гэта 6,5 тысячаў кілямэтраў газаправодаў, 7 кампрэсарных і 160 газарэдукавальных станцыяў, 3,6 тысячы працаўнікоў. Паводле самых сьціплых ацэнак спэцыялістаў, кошт усёй газавай гаспадаркі «БЕЛТРАНСГАЗУ» ў сусьветных цэнах складае каля 5 мільярдаў даляраў. Аднак паводле Пагадненьня цана беларускага дзяржаўнага прадпрыемства «БЕЛТРАНСГАЗ» (гэта значыць велічыня статутнага капіталу, уношанага ў Расейскае акцыянэрнае таварыства «ГАЗПРОМ») складае ўсяго 1,2 мільярда рублёў (каля 1 мільёна даляраў за сёньняшнім курсам расейскага рубля). Такім чынам, кошт «БЕЛТРАНСГАЗУ» заніжаны прыблізна ў 5000 разоў.

Як вядома, зь 1 красавіка г.г. грамадзяне Беларусі пачнуць атрымліваць імянныя прыватызацыйныя чэкі. На гэтыя чэкі яны будуць мець права набыць частку дзяржаўнай маёмасьці, якая падлягае прыватызацыі. Узьнікае пытаньне: калі самыя дарагія і высокарэнтабэльныя гаспадарчыя комплексы Беларусі пачынаюць за бесцань перадавацца прадстаўнікам нешматлікай расейскай фінансавай алігархіі, то куды нашыя людзі змогуць укласьці свае прыватызацыйныя чэкі? У стратныя энэрга- і рэсурсаёмістыя прадпрыемствы, якія пасьля разарэньня скупяць тыя ж багацеі з «Банк Імпэрыял»? Цікавы лёс падрыхтаваны беларускай прыватызацыі, якая пачынаецца на два гады пазьней, чым у Расеі. Думаю, што гэта не выпадковасьць, а стратэгія расейскіх спэцслужбаў, якія акапаліся ў беларускім урадзе. Такім чынам, можна сьцьвярджаць, што перадача «БЕЛТРАНСГАЗУ» ў Расейскае акцыянэрнае таварыства «ГАЗПРОМ» на ўмовах Пагадненьня, падпісанага 8 верасьня 1993 году, ёсьць ня што іншае, як прыхватызацыя агульнанароднай маёмасьці на міждзяржаўным узроўні.



*Малюнак Лявонція ЗДАНЕВІЧА*

Гадавая патрэба Беларусі ў прыродным газе складае каля 17 мільярдаў кубічных мэтраў. Сярэднеэўрапейская цана на прыродны газ вагаецца каля 80 даляраў ЗША за 1000 кубічных мэтраў. Такім чынам, для задавальненьня ў газе беларускія спажыўцы пры пераходзе на сусьветныя цэны павінны плаціць расейскім пастаўшчыкам у год больш за 1 мільярд даляраў.

Сусьветная цана транспартаваньня 1000 кубічных мэтраў газу на 100 км складае 1,5 даляра. Транзыт прыроднага газу праз Беларусь за 1993 год склаў звыш 20 млрд. куб. мэтраў. «БЕЛТРАНСГАЗ» атрымаў ад транзытных паслугаў у 1993 годзе 63,3 млрд. расейскіх рублёў. У дзяржаўны бюджэт было пераведзена падаткаў 10,8 мільярдаў рублёў. Каля 50 мільярдаў сталі прыбыткам «БЕЛТРАНСГАЗУ». Заўважу, што транзытны падатак пры гэтым ня плоціцца і наша дзяржава недалічвае ў бюджэце, за ацэнкамі спэцыялістаў, да 500 мільёнаў даляраў штогод.

Больш пэрспэктыўным было б акцыянаваць «БЕЛТРАНСГАЗ», даўшы магчымасьць грамадзянам Беларусі набыць акцыі за свае прыватызацыйныя чэкі. Ну, а затым акцыянэры маглі б прыняць рашэньне аб утварэньні, напрыклад, міжнароднага кансорцыюму, у склад якога маглі б увайсьці ня толькі РАТ «ГАЗПРОМ», але і аналягічныя прадпрыемствы Ўкраіны, Польшчы ды іншых краін. Міжнародны транснацыянальны кансорцыюм — найбольш выгадная форма супрацоўніцтва і эканамічнай інтэграцыі ў такой важнай галіне, як распрацоўка, здабыча і транспартаваньне газу.

Умовы, закладзеныя ў Пагадненьні, для нас кабальныя. Беларусь практычна траціць права на ўласнасьць, а значыць, і на кантроль за дзейнасьцю газатранспартнай і газаразьмеркавальнай сыстэмы на нашай тэрыторыі. Таму для ацэнкі і дапрацоўкі Пагадненьня належыць стварыць кампэтэнтную камісію, у якую зь беларускага боку павінны быць уключаныя прадстаўнікі Вярхоўнага Савету.

Што ж да вялікай запазычанасьці Беларусі Расеі за пастаўлены газ, то трэба ўжо даўно суадносіць свае патрэбы зь фінансавымі магчымасьцямі. Інакш хутка нас купяць з трыбухамі такія монстры, як «ГАЗПРОМ» і ягоны «Банк Імпэрыял».

**Уладзімер НОВІК,**
**народны дэпутат Рэспублікі Беларусі**

**СХЕМА**
магістральных газаправодаў
на тэрыторыі Рэспублікі Беларусі



Сяргей ДУБАВЕЦ

# В.Кебіч завяршае генэтычны экспэрымэнт

Глябальныя павароты чалавечай гісторыі рэдка адбываюцца ў пэўны дзень, у пэўную гадзіну. Напрыклад, хто назаве дату, калі пачаў наступаць ледавік? Мусіць, тагачасныя людзі ў той дзень нічога такога й не заўважылі...

Нешта падобнае ў гісторыі беларускага народу адбываецца ў гэтыя дні. Грандыёзны пераварот гэтай самай гісторыі можна разгледзець за ня самым прыкметным, на першы погляд, фактам.

Зь 1 сакавіка абсалютная большасьць беларусаў ужо ня можа прысехаць у Вільню. Патрэбныя візы. Патрэбны замежны пашпарт. Патрэбны штампік у пашпарце, што ты выязны. А гэта доўгія чэргі, вялікія грошы, шматмесяцовае афармленьне, нэрвы... Словам, мяжа зачынілася.

Літва дбае пра сваіх жыхароў. Яны й сёньня едуць на Беларусь, як пяць, дзесяць, сто, тысячу гадоў назад і, думаю, зь першага сакавіка вялікіх праблемаў у іх ня будзе. Гэта зь беларускага боку новая мяжа так нагадвае заходні кардон СССР у нядаўнія часы. Адтуль можна, туды — не.

Дбаючы пра сваю самастойнасьць, Літва натуральна адгароджваецца ад Расеі, часьцінкай якое ўяўляюць сваю краіну цяперашнія беларускія кіраўнікі. За сваю прамаскоўскую арыентацыю яны, як і за Брэжневам, плоцяць правам беларускага народу на выезд у шырокі сьвет.

Ня ведаю, як доўга працягнецца на Беларусі цяперашні палітычны сэзон, але закрыцьцё літоўскай мяжы наводзіць на канцэптуальныя думкі. Разам з гэтым фактычна завяршаецца 200-гадовы пераход нашае нацыі на іншыя этнічныя й геапалітычныя рэйкі.

Пасьля сфармаваньня беларускага народу 700 гадоў назад ён на 500 гадоў закрыўся ад Расеі. Увесь гэты час разьвіцьцё ішло паводле эўрапейскае лёгікі і ў шчыльнай сувязі з балтыйскімі народамі. З Масковіяй адбываліся войны, з Польшчай — сваркі. Балтыйска-чарнаморская вэртыкаль складала для беларусаў глебу й паветра існаваньня. Яна заўсёды была адкрытая, дзякуючы чаму й зьявіўся ў сьвеце такі народ — беларусы.

200 гадоў таму пачаўся згаданы пераварот. Адбылося далучэньне да Расеі, фактычная акупацыя Беларусі, але — разам з Польшчай і Літвою, г.зн. разам з звыклым атачэньнем.

Першая зачынілася мяжа з Польшчай. Дастаткова бясшкодна, бо беларусы мелі яшчэ выхад да Вільні — пракрыніцы свайго нацыянальнага духу. Цяпер прычынілася й мяжа з Украінай, але Ўкраіна яшчэ за савецкім часам перастала быць для беларусаў жаданай. І вось захлопнулася апошняя фортка — наша 700-кілямэтровая паўночная «фортка». Нацыя апынулася разьвернутай на 180 градусаў...

Ужо 200 гадоў мы сядзім у гэтым задушлівым пакоі, твар у твар. Але заўсёды адсюль можна было выйсьці, удыхнуць паветра. 200 гадоў чыясьці каштавая рука, апчаперыўшы нашую патыліцу, павяртала нас тварам на Ўсход. Усе 200 гадоў гэты разварот дыктаваўся зьверху. Вячаслаў Кебіч, уводзячы Беларусь у «рублёвую зону», займаецца ня столькі фінансамі, колькі генэтыкай. Мне гэта нагадвае мэдыцынскі экспэрымэнт у нацысцкім канцлягеры, хіба што экспэрымэнт Кебіча расьцягнуты на два стагодзьдзі.

Але этнічныя працэсы адбываюцца зьнізу. І таму застаецца пытаньне — ці за 200 гадоў наш этнас настолькі аслаблены, што прыме гэткі разварот і перастане існаваць, раштчыніўшыся ў адзіным целе Расеі, ці будзе супраціўляцца? Прычым рашуча. Бо на ціхае супраціўленьне зь верою, што калі-небудзь усё зьменіцца (як за савецкім часам верылі тыя ж літоўцы), у яго ўжо ня хопіць сілы.

Ледавік завершыць перараэьмеркаваньне зямное кары.

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

# За Бэрмудзкім трохкутнікам

*(Пачатак у №8)*

Напраўду, потым адбылася трохгадзінная экскурсія. Мы праехаліся па сярэдзіне сталіцы: нічога асаблівага, толькі людзей на вуліцах ня вельмі каб шмат. Мой суправаджальнік, сп. Guardiola, сказаў, што сальвадорцы дужа працавітыя людзі: кожны што-небудзь робіць; гультаёў і «беспрацоўных» няшмат.

А пасьля мы выехалі за горад, каб паглядзець у адным зь мястэчкаў «аўтэнтычнае народнае жыцьцё». Пакручастая і досыць рызыкоўная дарога паміж гор ды вульканаў прывяла нас у такое мястэчка з назваю Панчымалька (Panchimalco). На запыленай брукаванцы паўголыя цікаўныя дзеці, брудавата апранутыя (і паўапранутыя) дарослыя. Што праўда, яткі Coca-Cola ды Marlboro дабраліся і дасюль.

Галоўная прыкметнасьць Панчымалькі — тутэйшы касьцёл, закладзены гішпанскімі каляністамі яшчэ ў 1792г. Дзіўнае ўражаньне пакідае гэтая будыніна знутры. Нешта ў ёй ёсьць гэткае нехрысьціянскае, з цывілізацыі маяў (мой суправаджальнік сказаў мне, што ў суседняй Гватэмале бальшыня люду і не гаворыць па-гішпанску, а на мове nahuatl і падобных да яе дыялектах). Езус Хрыстус у інтэрпрэтацыі стваральнікаў храма — постаць, ачалавечаная больш, чым гэта звыкла нам: ягоныя пакуты, зразумелыя не расьпешчанаму жыцьцём тутэйшаму жыхарству, і ёсьць галоўнаю крыніцаю веры. Дарэчы, сьвятар у гэтую досыць глухую мясьціну Цэнтральнай Амэрыкі прыбыў — вы думаеце адкуль? — з самога Рыму! І з паходжаньня ён італіец.

Па дарозе назад у гатэль я крыху распавядаю свайму кампаньёну пра Беларусь... Здаецца, сымпатыі да камуністаў і ў яго няма ніякае. Хоць вядомы дзяяч нашай амэрыканскай эміграцыі Францішак Бартуль казаў мне калісьці, што Лацінскай Амэрыцы патрэбнае ачышчэньне камунізмам — каб зьнішчыць каставасьць ды няроўнасьць у міжлюдзкіх дачыненьнях. Толькі тады, маўляў, можна стварыць тут нармальнае грамадзтва.

Што ж, Сальвадор, можна ўважаць, прайшоў «ачышчэньне»: і шматлікімі гадамі кіраваньня рэакцыйнае (як і паўсюль) ваеншчыны, і грамадзянскаю вайною. Апошняя скончылася менш за два гады таму падпісаньнем генэральнага пагадненьня паміж урадам і фронтам Farabundo Marti.

На трэці дзень майго побыту пачалася сама канфэрэнцыя. Мэта і назва яе — CULTURE OF PEACE — досыць цьмяная. Цяпер у сьвеце модна прыдумляць прыгожае спалучэньне словаў, а пасьля спрабаваць падвесьці пад яго тэарэтычную базу. Тым ня менш дысцыпліна з назовам «Культура міру» ўжо выкладаецца ў сальвадорскіх школах. Гэта надта цікава — сабраць першую сусьветную канфэрэнцыю, каб высьветліць сутнасьць ейнага прадмету, але перад гэтым ужо нешта тлумачыць школьнікам. Падатная глеба для экспэрымэнтаў (як часам і ў нас), а, галоўнае, шкаляры нічога сур'ёзна сказаць супраць ня могуць.

Але ж падобныя канфэрэнцыі патрэбныя, каб укласьці некуды UNESCO'ўскія і аанаўскія грошы, а павадным людзям з пэўнае сацыяльнае групы пагаварыць, пабываць на банкетах etc. за гэты кошт.

Вось і тут усё пачалося з выступу былога шэфа ААН сп. Peres de Cuellar'a, тэлепрывітаньня генэральнага дырэктара UNESCO сп. Mayor'a (прыслаў відэакасэту са сваім выступам) і прэзыдэнта Сальвадора сп. Cristiani. Апошні, як высьветлілася, ёсьць асобаю вельмі дэмакратычнаю: увечары таго ж дня, даючы банкет, ахвотна фатаграфаваўся нават з афіцыянтамі ды прысутнымі ахоўнікамі.

Яшчэ адзін банкет быў раней, удзень. З больш як дзьвюх соцень запрошаных тамтэйшы міністар замежных справаў сп. Salaverria (адчуваецца, як запахла салам, а verre па-француску «шклянка»!) адабраў толькі чалавек 15, сярод іх і мяне — як афіцыйнага спавяшчальніка паводле праграмы. У канцы я падарыў яму бел-чырвона-белы сьцяжок (дарэчы, летувіскае вытворчасьці) разам з кнігай Янкі Запрудніка «BELARUS: AT A CROSSROADS IN HISTORY», выдадзенай у Штатах (а дзе яшчэ ўзяць чаго прыстойнага на ангельскай, ня кажучы ўжо каб на гішпанскай, пра Беларусь?).

Пасьля першага банкету я зьініцыяваў размову са спадаром Пэрэсам дэ Куэльлярам. Ён запрасіў мяне прадоўжыць гаворку ў ягоным гатэльным нумары. Згадаў, што раней двойчы бываў на Беларусі (як пасол Пэру ў былым СССР і як генэральны сакратар ААН), распытаў, што ў нас робіцца цяпер. Я меў пры сабе яшчэ брашуру Ўладзімера Новіка «BELARUS, a New Land of Opportunity», падараваў яе Пэрэсу дэ Куэльляру, далучыўшы нядаўна выдадзеныя па-беларуску ў прыгожым каляровым афармленьні нашым Гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтрам казкі «Cuentos de la selva» Гарасью Кірогі. Спадар Куэльляр зрабіў уражаньне чалавека бяз пыхі, палацінаамэрыканску раскаванага.

Сам першы дзень канфэрэнцыі быў тыповы для такога кшталту імпрэзаў: доўгія прамовы, шмат агульных словаў. У паабедзеным паседжаньні слова атрымалі прадстаўнікі васьмёх палітычных партыяў Сальвадору, бальшыня якіх вядзе якраз цяпер змаганьне за прэзыдэнцтва (выбары прызначаныя на травень г.г.). Вялікай розьніцы ў іхных праграмах я, шчыра кажучы, не заўважыў, але занатаваў сабе, што лявейшыя трымаюцца на трыбуне лепей (і жэстыкулююць больш выразна) за правых. Канцэптуальна найбольш цэласна гаварыў якраз прадстаўнік сёньняшняй прэзыдэнцкай партыі АРЭНА (Нацыяналістычны Рэспубліканскі Альянс) спадар Valdivieso. І праграма гэтае партыі найбольш нагадвае праграму нашага БНФ. Зрэшты, гэта, вядома ж, надта суб'ектыўна.

Цікаваю падзеяю першага дня былі мае размовы зь некалькімі пасламі, акрэдытаванымі ў Цэнтральнай Амэрыцы (на некалькі краінаў адзін). Першы да мяне падышоў італьянскі амбасадар (ня ведаю чаму), другі і трэці былі (і гэта зразумела) пасол Расеі спадар Яўген Астахаў і пасол Польшчы спадар Казімеж Духоўскі. З апошнім размаўлялі па-польску; ён пахваліў маё валоданьне і запрасіў у пятніцу на аўтамабільную вандроўку ў старыя паселішчы маяў, якую меўся арганізаваць іхны ганаровы консул (на Беларусі пра інстытут ганаровага консульства пакуль што адныя размовы: відаць, чакаюць, пакуль наша старая некамуністычная эміграцыя павымірае).

Спадар Астахаў не зрабіў уражаньня экстрэміста, хоць я папярэдзіў яго, што выступлю з крытыкаю расейскае канцэпцыі «клопату пра рускамоўнае (а цяпер, паводле сп. Козырава, яшчэ і «рускадумнае») насельніцтва ў блізкім замежжы». Але спадара расейскага пасла ўсё-такі чамусьці зацікавіла пытаньне, ці ўвялі мы на Беларусі падвойнае грамадзянства... Бедная Расея, калі ёй гэта так важна (хай наўкола ўсе будуць жабракі, але ж — свае жабракі)!

Увечары падчас банкету я крыху паразмаўляў і з чэскім амбасадарам. Усё тая ж туга па імпэрыі — што, маўляў, «ад нас аддзяліліся». А летась жа ў лістападзе я быў у Славакіі. І там нядаўнія «фэдэралісты» казалі мне, што цяпер зразумелі, як гэта добра — мець сваю незалежную дзяржаву. Вось так, у «славянскім сьвеце» сёньня найбольш падобныя між сабою расейцы, чэхі ды сэрбы, а таксама беларускія камуністы. Усё смуткуюць па імпэрыі... Другі дзень канфэрэнцыі быў прыкметны шматслоўнымі й вельмі агульнымі выступамі прадстаўнікоў розных краінаў. Цікавейшыя і жвавейшыя былі прамовы індыйскага ды эгіпецкага прадстаўнікоў. У другой палове дня прамаўляў і я. Потым мне сёй-той з удзельнікаў казаў, што гэта быў ці ня самы канкрэтны выступ. Тэма мае прамовы закранае «рускамоўнае» насельніцтва як фактар вонкавай палітыкі Расеі ў постсавецкіх дзяржавах.

Можа, важнейшым за прамову было тое, што я распаўсюдзіў сярод усіх удзельнікаў канфэрэнцыі інфармацыю «Belarus at a Glance» з кнігі Запрудніка. Цяпер, прынамсі, ня будуць пытацца, дзе гэта такая краіна.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

# «У абдымкі Масквы»

Гэтак красамоўна названы артыкул пра апошнія падзеі ў Беларусі, надрукаваны ў найбуйнейшай польскай газэце *Rzeczpospolita*.

Адхіленьне з пасады Старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча і абраньне на гэтую пасаду міліцэйскага генэрала Грыба выклікае занепакоенасьць у польскіх палітычных колах. Польскія палітыкі ўстурбаваныя ростам камуністычнае рэакцыі і дэстабілізацыяй на Ўсходзе. «Rzeczpospolita» так ацэньвае раскладку палітычных сілаў у Беларусі:

«Цяперашняе кіраўніцтва краіны і апазыцыя займаюць нагэтульki разьбежныя пазыцыі, што сёньня цяжка гаварыць пра магчымасьць якога-колечы кампрамісу. Уладу ў Менску непадзельна кантралююць камуністы (як былыя, так і цяперашнія), прыхільнікі шчыльнага саюзу і супрацоўніцтва з Расеяй, праціўнікі радыкальных эканамічных рэформаў. Тымчасам апазыцыя, у тым ліку яе найбуйнейшая арганізацыя — БНФ «Адраджэньне» — настроеная рашуча антыкамуністычна і нават нацыяналістычна і супраціўляецца збліжэньню з Расеяй».

Характарызуючы новага кіраўніка беларускага парляманту, уплывовая польская газэта піша: «Грыб зьяўляецца поўнаю супрацьлегласьцяй свайму папярэдніку. Шушкевіч, будучы навукоўцам, а не прафэсійным палітыкам, вылучаўся з свайго атачэньня, што паходзіла з камуністычнай савецкай намэнклятуры. Грыб жа да гэтае намэнклятуры належыць».

Ацэньваючы вынікі палітычнага страйку, карэспандэнт газэты зазначае: «Беларускія кіраўнікі неаднакроць паўтаралі, што найлепшая рыса Беларусі — гэта грамадзянскі мір, які пануе ў гэтай краіне. У нас, маўляў, не існуе ніякіх палітычных або міжнацыянальных канфліктаў. Але цяпер пра мір няма ўжо ніякай гаворкі. Менская дэманстрацыя даказала, што апазыцыя ў стане мабілізаваць тысячы людзей. А для апазыцыі гэта пытаньне з разраду «быць ці ня быць» — або яна здолее арганізавацца і павесьці за сабой людзей, або фактычна перастане існаваць».

**Падрыхтаваў Вінцук ШОСТКА**

# «Назад да матухны Расеі»

Newsweek пра Беларусь

**Найбольш уплывовы амэрыканскі часопіс, які асьвятляе міжнародныя падзеі і выдаецца шматмільённым накладам, упершыню за даволі працяглы час зьмясьціў вялікі артыкул пра Беларусь. Карэспандэнт Newsweek'a Эндру Загорскі пабываў у Менску падчас бурлівых лютаўскіх падзеяў. Ягоны артыкул называецца «Назад да матухны Расеі». Ніжэй падаем скарочаны пераклад артыкула.**

З усіх былых савецкіх рэспублік няма бліжэйшай да сэрца Расеі, чым Беларусь — і ў геаграфічным, і ў палітычным сэнсе. З таго часу, як расейская царыца Екацярына захапіла яе ў апошняй чвэрці XVIII ст., «Белая Русь» была для Масквы сухаземным мостам на Захад, а таксама сельскагаспадарчым ды індустрыйным цэнтрам. Калі расейскі міністар замежных справаў Андрэй Козыраў у мінулым месяцы акрэсьліваў «жыцьцёвыя і прыярытэтныя інтарэсы» Расеі ў суседніх краінах, Беларусь апынулася вельмі блізка ад пачатку ягонага сьпісу. Кіраўніцтва ў Менску, здаецца, з гэтым пагаджаецца. Менш чым праз два тыдні пасьля таго, як прэзыдэнт Біл Клінтан пахваліў кіраўніка беларускага парляманту Станіслава Шушкевіча за «кіраваньне рэформамі ў сваёй дзяржаве», той быў зьняты з пасады закаранелымі камуністамі.

У Беларусі выбары не праводзіліся з 1990 г., г.зн. яшчэ да краху савецкага кіраваньня. І гэта адбіваецца на агульным становішчы краіны. Велізарная статуя Леніна ўсё яшчэ ўзвышаецца перад урадавым комплексам у Менску. Урадавыя газэты ўсё яшчэ друкуюць на першых палосах выявы сярпа і молата, якія даўно зьніклі са старонак расейскай прэсы. Захаваньне гэтых сымбаляў мае пад сабою падставы: беларускія ды расейскія афіцыйныя асобы ўжо вядуць перамовы аб валютнай і эканамічнай інтэграцыі абедзьвюх краінаў.

«Наша надзённая мэта — жыць у яшчэ большай дружбе з Расеяй», — кажа Мечыслаў Грыб, генэрал з МУС Савецкай Беларусі, які зьмяніў Шушкевіча на пасадзе старшыні парляманту. Але Зянон Пазьняк, лідар апазыцыйнага Беларускага Народнага Фронту, заяўляе: «Гэта — змова камуністаў, якія працуюць на Расею. Яны плянуюць ліквідацыю нашай дзяржавы».

Тымчасам у Беларусі не праводзяцца амаль ніякія рэформы. З прычыны эканамічных цяжкасьцяў многія пажылыя грамадзяне пераканаиня, што ідэя незалежнасьці — няслушная. Маладзейшыя беларусы і актывісты Апазыцыі мяркуюць, што сапраўдная праблема палягае ў палітыцы ўраду, а не ў незалежнасьці. Каманда Кебіча нават не спрабавала распачаць якія-небудзь эканамічныя рэформы. Сёньня ў Беларусі існуе толькі невялічкая колькасьць прыватных крамаў пасярод непрабуджаванай, моцна карумпаванай дзяржаўнай эканомікі. Крытыкі ўраду сьцьвярджаюць, што любыя пачатковыя эканамічныя саступкі з боку Масквы, скіраваныя на фактычнае далучэньне Беларусі да Расеі, будуць вельмі хутка змарнаваныя нэгатыўнымі наступствамі адсутнасьці незалежных рэформаў. «Мы маглі б вылезьці з крызысу значна хутчэй без Расеі», — кажа Глеб Хаткевіч, 30-гадовы бізнэсмэн.

Зьмяшчэньне Шушкевіча можа стаць толькі пачаткам урадавай кампаніі на здушэньне крытыкі. Мікалай Скарынін, памочнік Кебіча, прадказвае, што рэдактар «Народнай газеты», вядучага штодзённіка краіны, будзе зьняты з пасады за наданьне задужа вялікай газэтнай плошчы апазыцыйным поглядам. Урад таксама намагаецца ўсімі сіламі адцаліць парляманцкія выбары і праштурхоўвае ідэю моцнага прэзыдэнцтва. Гэта, на думку апанэнтаў, ня што іншае, як імкненьне ўсталяваць адкрыта аўтарытарнае кіраваньне. Але галоўнаю мэтаю лідараў старой гвардыі застаецца скляпаньне эканамічнага пагадненьня з Расеяй, якое, на іхны спадзеў, часова суцішыць незадаволенасьць народу. Калі гэта прывядзе да здачы вялікай долі суверэнітэту пры захаваньні магчымасьці застацца пры ўладзе, яны на гэта пойдуць без аніякіх згрызотаў сумленьня. Урэшце, яны ж ніколі не патрабавалі незалежнасьці: яна абрынулася на іх з развалам Савецкага Саюзу.

**Пераклаў В.Л.**



**«Назад у маскоўскую арбіту». Гэтым здымкам менскага фотакарэспандэнта Юрыя Іванова *Newsweek* праілюстраваў цяперашні жыцьцёвы ўзровень беларусаў.**

Жадаючых набыць акцыі Беларускага нацыянальнага цэнтру ў Манрэалі (Канада) просім зьвярнуцца на адрас Згуртаваньня беларусаў у Квэбэку:

A.Chrenowski
1973 Romiti,
Chomedey Laval,
Quebec H7T 1J7
Canada

Старшыня ЗБК Анатоль Хрэноўскі
Тэл. 514-973-1639

# Новыя задачы польскай усходняй палітыкі



**Міністар замежных справаў Польшчы Анджэй Аляхоўскі выступіў з спавешчаньнем на паседжаньні сэнацкай камісіі замежных справаў, дзе выклаў асноўныя прынцыпы польскай усходняй палітыкі.**

Па-першае, заявіў сп.Аляхоўскі, Польшча імкнецца ўсталяваць усебаковыя дачыненьні з краінамі, што маюць асабліва істотнае значэньне для яе з гледзішча палітычных, эканамічных і абаронных інтарэсаў. Па зразумелых прычынах прыярытэтнымі для Польшчы зьяўляюцца перадусім дачыненьні з суседнімі дзяржавамі, а ў групу дзяржаваў асаблівага інтарэсу ўваходзяць Расея, Украіна, Беларусь, балтыйскія краіны, Казахстан і Малдова.

**Расея ды Ўкраіна** займаюць асаблівае мейсца з увагі на іх эканамічны патэнцыял і вайсковапалітычнае значэньне: посьпех або параза польскай палітыкі будуць залежаць ад наладжваньня дачыненьняў з гэтымі дзяржавамі.

**Другая задача польскай вонкавай палітыкі — спрыяць палітычнай і вайсковай стабілізацыі ў рэгіёне.** Паколькі пагрозы маюць рэгіянальны характар, г.зн. не датычаць выключна Польшчы, дык палітыка краіны павінна быць у максымальна магчымай ступені ўзгодненая з палітыкай заходніх, паўночных і паўднёвых суседзяў. У меру магчымасьці Польшча павінна быць ініцыятарам і актыўным удзельнікам супольных дзеяньняў, браць на сябе ролю рэгіянальнага «экспартэра стабільнасьці».

Па-трэцяе, зьмены на абшары былога СССР нясуць для Польшчы новыя эканамічныя магчымасьці і шанцы, але на сёньня пакуль што пераважаюць пагрозы. Апрача таго, каб выкарыстаць шанцы, якія ў будучыні прынясуць прыбытак, трэба ўжо сёньня рабіць захады і несьці выдаткі.

**Двухбаковыя палітычныя дачыненьні**

Польшча разглядае ўсіх сваіх усходніх суседзяў як цалкам незалежныя й суверэнныя дзяржавы. Палякі кроўна зацікаўленыя ў станаўленьні іх нацыянальнай ідэнтычнасьці, а таксама ў дэмакратычных і рынкавых зьменах. Сказанае, аднак, не азначае, заўважыў Анджэй Аляхоўскі, што мы не жадаем усталяваньня шчыльных сувязяў паміж гэтымі краінамі, калі толькі гэта не супярэчыць гвалтам, дыктатам ці парушэньнем дэмакратычных працэдураў; мы разглядаем такое ўсталяваньне сувязяў як працэс натуральны і адпаведны міжнароднаму праву.

**У дачыненьнях з Расеяй** мы імкнемся да выразнага пацяпленьня клімату. Мы будзем інтэнсыфікаваць і пашыраць рамкі дыпляматычных кансультацыяў у двухбаковых і міжнародных справах, у тым ліку ў тых, што датычаць бясьпекі і раззбраеньня. Мы гатовыя да інтэнсыўных урадавых і парляманцкіх кантактаў і будзем стварыць практычныя магчымасьці для рэгулярных пазаўрадавых кантактаў. Мы хочам пашырыць маштабы абмену інфармацыяй і досьведам, асабліва ў галіне лякальнай дэмакратыі ды індывідуальнай сельскай гаспадаркі. Маем намер прапанаваць супольную міжнародную ініцыятыву, скіраваную на змаганьне з арганізаванай злачыннасьцяй. На міжнароднай арэне мы імкнемся дапамагаць пры ўрэгуляваньні статусу расейскіх меншыняў згодна з эўрапейскімі стандартамі. Мы падтрымаем сяброўства Расеі ды іншых дзяржаваў б.СССР у Радзе Эўропы. Мы маем надзею, што Расейская Фэдэрацыя далучыцца да «Партнэрства дзеля міру». Гэта зробіць магчымым узмацненьне дыялёгу ў вайсковых справах ды рэалізацыю ініцыятывы аб шматбаковых вучэньнях і падрыхтоўцы з удзелам Расеі, краін рэгіёну і сяброў НАТО.

«Ніжняю» граніцаю гэтае палітыкі адкрытасьці й зычлівасьці у стасунках з Расеяй ёсьць паважлівае стаўленьне да асноўнага, стратэгічнага выбару польскай вонкавай палітыкі, г.зн. да ўдзелу ў заходніх інстытуцыях: ЭС, НАТО і РЭС.

**У дачыненьнях з Украінай,** як і ў выпадку з Расеяй, мы зробім захады дзеля пашырэньня ўсебаковага добрасуседзкага супрацоўніцтва. Іхным асаблівым паказьнікам стане ўтварэньне ў Кіеве і Львове польскіх культурных прадстаўніцтваў і гуртаваньне вакол іх зычлівых да Польшчы асяродкаў.

Аднак асноўнаю справаю ў нашых палітычных стасунках ёсьць, вядома ж, справа незалежнасьці Ўкраіны, якая для Польшчы мае стратэгічнае значэньне. Нядаўнае ўкраіна-расейска-амэрыканскае пагадненьне спрыяе ўмацаваньню гэтай незалежнасьці. З аднога боку, мы будзем вымагаць поўнага выкананьня гэтага пагадненьня Украінаю і больш энэргічных эканамічных рэформаў; з другога боку, будзем спрыяць таму, каб гэтая краіна заняла належнае мейсца ў міжнароднай палітыцы.

Натуральна, казаў далей польскі міністар замежных справаў, нас непакояць галасы аб «асаблівых інтарэсах» і «адмысловай ролі» Расеі на Ўкраіне. Такія галасы не спрыяюць стабільнасьці ў Эўропе. Мы іх не прымаем, глыбока верачы, што незалежнасьць Украіны спрыяе ў доўгатэрміновым пляне таксама й развіцьцю дэмакратыі і эканомікі Расеі.

**У палітычных дачыненьнях з балтыйскімі дзяржавамі** істотнае мейсца зоймуць дзеяньні, што падкрэсьліваюць суб'ектнасьць гэтых краінаў на міжнароднай арэне і заахвочваюць іх паступовае далучэньне да эўрапейскіх структураў. Мы мяркуем, што падпісаньне польска-літоўскае дамовы створыць падставы для хуткага развіцьця ўсебаковых стасункаў, асабліва эканамічных. Мы будзем уважліва сачыць за справамі нацыянальных меншыняў у Летуве. Варта прыгадаць, што Польшча выступае за грамадзянскую інтэграцыю этнічных меншыняў пры захаваньні культурна-моўнай аўтаноміі, але без палітычна-эканамічнай, і, адначасова, пры поўнай павазе да правоў гэтых меншыняў згодна са стандартамі НБСЭ і Рады Эўропы. Усялякае парушэньне гэтых мінімальных стандартаў сустрэне нашую моцную рэакцыю.

**У развіцьці добрасуседзкіх дачыненьняў зь Беларусьсю** мы хочам зрабіць націск на даўгахвалевыя дзеяньні, перадусім у сфэры эканомікі ды культуры. Прыкладам развіцьця культурных дачыненьняў стане адкрыцьцё культурнага цэнтру ў Менску.

**Падрыхтаваў Віктар ЛУК'ЯНАЎ**

# Эпархіяльныя таямніцы

*(Працяг)*

З чарадой анёлаў у беласьнежных хвартушках і хусьціначках з чырвонымі крыжыкамі любіць паказацца ў адказныя моманты Мітрапаліт Філарэт. Гэта сёстры міласэрнасьці, якія зьявіліся ў Менску па блаславеньні Ўладыкі. У мінулую перадвыбарчую кампанію гэтыя красачкі пакідалі свае міласэрныя справы, як промні разьляталіся па кватэрах выбаршчыкаў і агітавалі прагаласаваць за Мітрапаліта Філарэта. Яны вельмі хацелі, каб той стаў народным дэпутатам і быў ня толькі ў царкоўных, але і ў сьвецкіх вярхох. За гэткае стараньне ў Эпархіяльнай управе іх пачаставалі сякімі-такімі ласункамі. Перад новай выбарчай кампаніяй можна канстатаваць, што колькасьць такіх агітатараў у Мітрапаліта Філарэта вырасла. Толькі вось з пачастункамі можа не атрымацца, бо на Эпархіяльную ўправу прыйшоў гуманітарны груз з амэрыканскіх сугчыкаў для пахудзеньня і пакуль усё.

У гэтым анёльскім воблачку — старэйшая сястра А.Жылкіна, якая лётае на аўтамабілі «Фольксваген», падораным* на патрэбы міласэрнасьці сп-няй Э.Райзэр — жонкай старшыні Сусьветнай Рады цэркваў. Праўда, цяпер ня вельмі разгонісься, бо бэнзын каштуе дорага і патрэбна плаціць шафёру.

Анёльская каманда А.Жылкінай з 62-х сясьцёр афіцыйна завецца праваслаўным таварыствам міласэрнасьці Сьв. Сафіі Слуцкай і мае два рахункі: у Прамбудбанку (700433, код 362) і ў Нямецкім банку ў Кёльне (1874825). Куды ж выкарыстоўваюцца ахвяраваньні, якія паступаюць на гэтыя рахункі, калі на дзіцячае сьвята ў менскім Інстытуце траўматалёгіі і артапэдыі для 70 хворых дзетак сёстры ледзьве наскрэблі грошай, каб купіць па аднаму пірожнаму. А наскрэблі з кубка міласэрнасьці, што ўвесь час знаходзіцца ў менскай царкве Марыі Магдалены.

«Кажу вам, што ўсякаму, хто мае — дадзена будзе, а ў немаёмнага адымецца й тое, што мае», — гаворыцца ў Сьвятым Эвангельлі паводле Лукі. Сабраўшы сродкі, таварыства міласэрнасьці захвалявалася, каб іх ня зжэрла інфляцыя. Выратаваньне знайшлі даволі пашыранае. Калі едзеш паблізу тых жа Смаргоняў, то трапляеш у, так бы мовіць, Смаргоні будучыні, дзе як грыбы павырасталі катэджы. Вядома ж, царкоўны грыбок шукае асаблівага месца, дзе-небудзь у ціхенькім, прыгожым куточку. Добра яму было расьці наводшыбе вёскі Сукневічы Смаргонскага раёну, сярод лесу, далей ад людзкіх вачэй. Пра яго стараюцца ня згадваць ані мясцовыя ўлады, ані самі гаспадары. Кіраўніца будоўлі А.Жылкіна падкрэсьліла, што «мы нават баімся гаварыць пра гэта». А тая двухпавярховая дача — з чырвонай і белай цэглы, з незвычайнымі авальнымі вакенцамі. Каля яе ўжо ёсьць гараж для «Мэрсэдэса» альбо «Фольксвагена». Усё гэта абнесена маляўнічай «аградой» разам зь зямлёю ў 75 сотак. Хоць у калгасе і дэфіцытныя землі, але, улічваючы «высакародныя мэты», адпусьцілі пад міласэрнасьць спачатку 50 сотак. Летась тут жылі чатыры чалавекі, якія даглядалі ўраджай. Каля «агарады» тут як тут — жоўценькая лазьня на беразе ручая. Усё пад рукою: скруціў у лесе бярозавы венічак і папарыўся.

Катэдж будаваўся за бласлаўленьнем Мітрапаліта Філарэта і «ягонымі сродкамі». Але дзе ж узяў тыя сродкі Ўладыка, калі ягоная зарплата на месяц складае 50 тыс. рублёў? Такая сума выклікае толькі шкадаваньне ды спачуваньне. А за якія грошы будзе аплочвацца бэнзын, бо ад Эпархіяльнай управы ў Менску да Сукневічаў ня так ужо й блізка? Аднак усё, відаць, добра прадумана і пралічана. А.Жылкіна плянуе тут разводзіць гародніну, кветачкі, завесьці пчолак і здабываць мядку ці то ад міласэрнасьці, ці то для міласэрнасьці.

Таварыствы міласэрнасьці зьбіраюцца і пры іншых цэрквах. Беручы прыклад з А.Жылкінай, падумваюць адкрыць у банках свае рахункі, каб зьбіраць сродкі й ратаваць іх ад інфляцыі.

На заканчэньне гэтае часткі згадаю, што ў тым жа Смаргонскім раёне, у вёсцы Крэва летась маланкаю зьбіла крыж на царкве Аляксандра Неўскага. Як патлумачаць гэтую зьяву ў Эпархіяльнай управе?

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*(далей будзе)*




*Малюнак Лявонція ЗДАНЕВІЧА*

# Наша Ніва №2

«Яшчэ слаба ўсьведамляючы гэта, Беларусь спакваля ўваходзіць у новыя часы свайго йснаваньня — часы замглёнай гістарычнай пэрспэктывы, расплывістых крытэрыяў і няясных мэтаў. Дармовая, нічым не аплочаная, ня выпакутаваная незалежнасьць аддаецца гэтак жа лёгка й безаплатна, як і далася. Гэтаму спадарожнічае хіба што некаторае замяшаньне ў шэрагах незалежнікаў... Так бомж, якому раптам дазволілі пажыць у камфортных апартамэнтах, пакідае іх са шкадаваньнем, зь непаразуменьнем уваччу, але й без супраціву. Ён расстаецца зь дзівам і таму не пытаецца, чаму яго зноў выкідаюць на вуліцу...»

Але дзіва незалежнасьці й праўда незалежнасьці — розныя рэчы. Так выглядае сёньняшні дзень Беларусі зь Вільні, з рэдакцыі віленскай беларускай газэты «Наша ніва».

Гэты нумар газэты — францускі. Тут друкуюцца ніколі не перакладанае ні па-беларуску, ні па-расейску апавяданьне Альбэра Камю «Камень, які расьце»; гутарка супрацоўніка «НН» Сяргея Шупы з культурным аташэ францускага пасольства ў Вільні Фрэдэрыкам Жюжо «Францускі погляд на Эўропу зь Вільні»; вершы Шарля Бадлера і Раймона Кёно; ангельская карэспандэнтка «НН» Мэва Марон свае нататкі гэтым разам даслала з Парыжу.

Адкрыцьцё нумару — Оскар Мілаш. «Оскара Мілаша беларуская культура праспала. Калі ён, парыскі паэт, вандроўнік-касмапаліт, расейскі грамадзянін, сын жыдоўкі, народжаны ў польскай мове, ліхотамі Першае Сусьветнае вайны быў загнаны ў крэсла францускага службоўца, ён востра адчуў сваю Бяздомнасьць. І тады, напружыўшы памяць і падсьведамасьць, з старых паданьняў і родавых успамінаў, з прывідаў і туманоў зямлі маленства, зь сьненьняў няведамага бога ён стварае сваю Краіну Мараў — яе тапаграфія, так добра нам знаёмая, была падрабязна апісаная Баршчэўскім і Кіркорам, Ластоўскім і Драздовічам...»

Акрамя гэтага ў нумары друкуюцца: проза Паўліны Качатковай, чытачоўскія допісы, рэцэнзіі ды шмат іншага.

# Вы сабраліся ў Польшчу...

**Некалькі парадаў тым, хто зьбіраецца ў Польшчу і хоча пазьбегнуць непрыемнасьцяў у чужой краіне.**

Перадусім, якім бы транспартам вы ні ехалі, не забудзьцеся на мяжы задэкляраваць увезеную валюту. Калі польскія мытнікі знойдуць недэкляраваную суму — адбяруць. І не дапамогуць ані сьлёзы, ані тлумачэньні. Апошнімі часамі гэта бывае часта.

Калі вы ўранку прыбылі цягніком на вакзал «Warszawa Centralna», не карыстайце з паслугаў незнаёмых — гэтая станцыя «славіцца» шматлікасьцю злачынстваў. Асабліва спрытна тут дзеюць кішанёвыя злодзеі. Не пасьпееце азірнуцца, як застанецеся ня толькі бяз грошай, але й без дакумантаў.

На вакзале дзень і ноч працуе kantor — пункт абмену валюты, аднак буйных сумаў не мяняйце: тут найніжэйшы курс канвэрсавальных валютаў.

Калі вам няма дзе спыніцца, шукайце таннага гатэлю. Раім тры, усе — у цэнтры горада: «Dom chłopa», «MDM» і «Saski». За дзень тут бяруць 15—25 даляраў.

Не забудзьцеся купіць квіткі на гарадзкі транспарт, хоць яны і дарагія — па 6 тысяч злотых. Кара за праезд без квітка надта высокая — 200 тысяч злотых. Заробак кантралераў залежыць ад колькасьці злоўленых «зайцоў», таму яны бязьлітасныя. Квіткі трэба й на багаж.

Пакідаючы аўтамабіль на стаянцы, азірніцеся, ці няма забарончых знакаў. Узімку фары трэба ўключаць і ўдзень, неабходна карыстацца рамянямі бясьпекі. Грашовыя кары за парушэньне гэтых патрабаваньняў таксама дужа вялікія. Не забывайцеся, што аўтамабільныя злодзеі ў Польшчы «высокакваліфікаваныя» і спрытныя. Летась там было скрадзена каля 60 тысяч аўтамабіляў. Вандруючы па Польшчы, старайцеся не пакідаць машыну побач зь лесам, у бязьлюдных мясьцінах. Калі вам даюць знак спыніцца, але паблізу не відаць аўтамабіля дарожнай паліцыі, то лепш не спыняцца, каб унікнуць сутыкненьня са злачынцамі.

Не перавышайце дазволеную хуткасьць, пільнуйцеся правілаў дарожнага руху. Асабліва зважайце на варшаўскіх вуліцах, дзе надта інтэнсыўны рух. Не забудзьцеся застрахаваць транспартны сродак і ўласнае жыцьцё — лекаваньне ў Польшчы каштуе вельмі дорага.

Калі вы прывезьлі тавар на продаж, ня раім ехаць на г.зв. «усходні рынак». Як піша польскі друк, ён знаходзіцца ў руках злачынцаў. Ад вас могуць запатрабаваць такую «даніну», што не кампэнсуеце нават кошту тавару.

Не сьпяшайцеся купляць. Хоць крамы ў Польшчы ломяцца ад таварнай аквітнасьці, але цэны вельмі розныя. Пахадзіце, прыцаніцеся — той самы тавар дзесьці ў іншым месцы можа каштаваць ці не ўдвая таньней.

**Альгімонт ДЗЯГУЦЬ,**
ELTA

# Без расейскіх грошай у царкву не хадзі

**Імкнучыся прысьпешыць аб'яднаньне беларускай і расейскай грашовых сыстэмаў, некаторыя праваслаўныя цэрквы на ўсходзе Беларусі пачалі пераходзіць на расейскія рублі.**

Напрыклад, у гомельскім Петрапаўлаўскім саборы ўся рэлігійная атрыбутыка прадаецца выключна за расейскія грошы. Такім чынам, далучыцца да праваслаўя гомельцы могуць толькі праз купюры з двухгаловым арлом. Ахвяраваньні, праўда, прымаюцца і ў беларускіх «зайцох».

**А.ГАТАЛЬСКАЯ**

# Згарэў «Раяль»

**На дурніцу пакаштавалі замежнага «Раялю» гарадзенскія мужчыны, якія сталі сьведкамі незвычайнага пажару.**

Апоўначы на аўтастаянцы з-за няспраўнай электраправодкі загарэўся грузавік з прычэпам. У кодабах быў сьпірытус, які везьлі зь Нямеччыны ў Калугу (Расея).

Сіняе полымя, а менавіта так гарыць сьпірытус, амаль 2 гадзіны палівалі белаю пенаю ажно 5 пажарных машынаў. Прычэп, дарэчы, удалося адцягнуць убок. Верхнія скрынкі ў ім згарэлі, але сяму-таму ўдалося выхапіць па колькі гарачых пляшак амаль з агню. Хто не пасьпеў, чэрпаў потым сьпірытус жменямі. Кажуць, што зьмешанае з шумавіньнем пітво было хмяльным як мае быць.

**Ян КАЗІМІРЧЫК**

## За кадрам

Сярод тых, хто дапамагаў заваёўваць нашым алімпійцам мэдалі ў Лілехамэры, быў таксама дэпутат Сяргей Котаў — былы правінцыйны доктар, а цяпер Старшыня Камісіі ВС па ахове здароўя і фізычнай культуры.

У аэрапорце «Мінск-2», дзе раніцай 1 сакавіка яго зафатаграфаваў наш фотакарэспандэнт, сп.Котаў быў самы важны чалавек — ішоў паперадзе ўсяе алімпійскае каманды.

Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 9.03.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 319 Наклад 22 000.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12